РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА


Возера Белае і Залескі парк.
Фота Ул. Скрабатуна

Жыве Беларусь!

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Free Hlybokaye

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*

*Янка Купала.*

Выдаецца са снежня 1994 года.
№26 (58), снежань, 2000 года.
Кошт па дамове

## Напад на рэдакцыю незалежнай газеты

У Баранавічах 5 лістапада невядомыя ўварваліся ў рэдакцыю незалежнай рэгіянальнай газеты «Крок» і ўкралі ўсе камп`ютэры, сканеры, прынтары і іншую аргтэхніку, неабходную для выпуска газеты. Ахоўнік быў збіты і звязаны. Але перш, чым яму заклеілі вочы, ён, ужо лежачы на падлозе, убачыў на злачынцы штаны вавеннага ўзору і ваенныя чаравікі.

*Ю. Аляксееў, БелаПАН*

## Зверствы ў Наваполацку

Ноччу 28 кастрычніка ля кавярні «Марозка» была знойдзена дзяўчына з нажавымі раненнямі пляча і шыі. Праз тры дні пацярпелая памерла ў рэанімацыі. 29 кастрычніка зафіксаваны яшчэ адзін напад на маладую жанчыну, якую ўдалося выратаваць. Міліцыя абяцае ўзнагароджанне за любую каштоўную інфармацыю, якая б дапамагле следству.

*А.К.*

## Беларусы ў рабстве?

Чацвёра наших суайчыннікаў -- І. Гапонаў, У.Сікорскі, В.Барычэўскі і С.Калаур -- спакусіліся на добрыя заробкі на Вілюйскай ГЭС-3, што ў Расіі і 23 кастрычніка ўжо былі на месцы. Праз пяць дзён усе чацвёра аб`явілі галадоўку, бо ўмовы працы і заробкі былі далёка ад абяцаных. На трывожны сігнал ніхто не адрэагаваў. Пікетчыкаў, родных і знаёмых хлопцаў, якія сабраліся, каб звярнуць увагу беларускіх улад на праблемы грамадзян, затрымала міліцыя.

Усе чатыры хлопцы нежанатыя. Адзін з іх хацеў зарабіць на вяселле.

Гэты выпадак не адзіны, калі правы беларусаў у суседняй Расіі груба парушаліся.

*А.Коктыш*

## Хлусня ці праўда?

Згодна інфармацыі ананімнага афіцэра КДБ Беларусі, тэлеаператар Дзмітрый Завадскі, які ўжо колькі часу лічыцца зніклым, забіты рыдлёўкай і цела яго закапана ў лясным масіве непадалёку ад Мінска. Гэта інфармацыя была вядома П. Шэрэмету яшчэ за некалькі дзён да выхаду на экраны фільма «Дзікае паляванне». Тады П.Шэрэмет падумаў, што гэта правакацыя, бо не прыводзіліся ніякія доказы. Улады пакуль не пацвердзілі, але і не абверглі гэту інфармацыю.

*«Віцебскі кур`ер»*



## Пуцін быў добрым кухарам

Дзед прэзідэнта Расіі Спірыдон Пуцін да 72 год абслугоўваў элітныя банкеты. Калісьці ён трапіў у Горкі, карміў жонку У. Леніна Надзею Крупскую і яе сястру Мар`ю Ільінічну і брата Леніна Дзмітрыя. У час вайны Спірыдон Пуцін працаваў на дачы Шчарбакова і адзін раз карміў І.Сталіна. Сваю прафесію кухар Спірыдон не любіў. «Што ў мяне за спецыяльнасць такая?-- не раз пытаўся ён,-- прыгатуеш, з`ядуць і памяці ніякай не застаецца». Ён шкадаваў, што не стаў інжынерам ці архітэктарам. Памёр С.Пуцін у 86 год, у 1965 годзе, калі ўнуку Валодзю, цяперашняму прэзідэнту Расіі, было 12 год.

*О.Вандышава*

### ЦЫТАТА НУМАРА

«Я не ведаю што такое "конныя матросы", але выязджаць з гэтай краіны трэба».

*Ф. Шаляпін*



## Чырвоны дзень календара

Сапраўды чырвоным стаў дзень 7 лістапада для пажарных. За святочныя выхадныя па Віцебскай вобласці зафіксавана 27 пажараў, двое чалавек загінула.

8 лістапада ў Глыбокім ва ўласнай хаце ад дыму задыхнуўся 50-гадовы работнік аднаго з прадпрыемстваў воднай гаспадаркі. Па словах суседзяў, мужчына любіў выпіць. Менавіта суседзі заўважылі, што яго не бачна доўгі час. Выклікалі міліцыю. Узламалі дзверы. На ўжо сатлеўшай канапе знайшлі мёртвага гаспадара.

*А. Мятла*

ПАСТАВЫ `2000



## Беларусы ратуюць расійскую эканоміку?

**Апошнім часам заўважаю, што на глыбоцкіх прылаўках ляжыць расійская мясная прадукцыя.**

Па якасці незайздросная, дарагая, але ў параўнанні з нашай мясцовай -- таннейшая. Я не эканаміст, мо таму і не магу зразумець як каўбаса, выробленая ў Глыбокім ці Мінску, можа быць даражэйшай за вырабленую расійскую? Хто ж разумны так знішчае сваю эканоміку і ратуе расійскую?

Вяскоўцы не могуць здаць сваю прадукцыю,бо плацяць грашы і тыя несвоечасова. Камерсанты, якія разлічваюцца «жывымі» зайцамі і плацяць больш, чым дзяржава, ратуюць сялян. Вязуць тое мяса ў Расію, а праз нейкі час яно, ускручанае ў цане, зноў вяртаецца да нас, да дзяцей і ўнукаў тых сялян, што мяса здалі. Вось дык парадак! Каб сваё было крыху таннейшае, то купляла б толькі яго, бо наша прадукцыя па якасці лепшая. Іхнюю сасіску купіш -- яна як вата ў роце камячыцца, у каструлі разваліваецца. Каўбаса незразумела з чаго -- манны, рысу ці хлоп`яў? Навошта ж закупляць гэта абы што, мо лепш заплаціць сваім вытворцам і паставіць разумную цану на тое, што вырабляем? Хоць і кажуць, што ў жанчын валасы доўгія, а розум кароткі, упэўнена: каб Беларуссю кіравала жанчына, у яе было б больш толку -- уся сям`я беларусаў і сытая была б, і апранутая, і абутая.

*Л.Пятроўская, г.Глыбокае*

## Настаўнікі патрабуюць

72 тысячы подпісаў сабрана ў падтрымку патрабаванняў, якія сфармуляваны ў заяве супрацоўнікаў сферы адукацыі і навукі Мінска.

«Нельга даводзіць узровень нашай зарплаты да 46% ад сярэдняй у прамысловасці... Няма будучыні ў грамадстве, у якім міліцэйскі сяржант атрымоўвае зарплату большую, чым настаўнік і нават прафесар... Ніводнае абяцанне да цяперашняга не выканана. Не будуйце нікому не патрэбныя аб`екты, не праводзьце святы і фестывалі, прывядзіце ў адпаведнасць з колькасцю насельніцтва нашай рэспублікі колькасць супрацоўнікаў МУС, арміі і іншых сілавых структур...

Калі нашы патрабаванні не будуць выкананы да канца 2000 года, мы пакінем за сабой права абараняць свае інтарэсы ўсімі магчымымі сродкамі»,--гаварылася ў заяве.

*І. Леўшына, Бела ПАН*

## Семінар пад эгідай АБСЕ ў Глыбокім

25 лістапада ў памяшканні Глыбоцкага ГДК адбыўся праваабарончы семінар «Грамадскі абаронца ў беларускай судавытворчасці». Арганізатарамі семінара стала міжнародная місія АБСЕ ў Беларусі, грамадскае аб`яднанне «Беларускі Хельсінскі Камітэт», а таксама Глыбоцкае аддзяленне БХК. Сярод выступоўцаў быў вядомы юрыст Гары Паганяйла, яго калегі-юрысты Алег Гулак, Андрэй Атаманчук. Удзел у семінары прымалі грамадскія праваабаронцы з Пастаў, Шаркоўшчыны і Глыбокага, прафесійныя адвакаты і юрысты, сябры БНФ, прадстаўнікі школ, медустаноў, культуры, раённага аддзела адукацыі, прадпрымальнікі, нештатнія аўтары і распаўсюджвальнікі газеты «Вольнае Глыбокае». Акрамя выступлення гасцей былі дэбаты, гучалі пытанні і адказы, была інсцэніравана гульня -- судовы працэс з удзелам грамадскіх абаронцаў, у ролі якіх выступалі ўсе прысутныя. Праграма семінару зацікавіла многіх. Амаль усе ўдзельнікі жадалі і надалей праводзіць такія карысныя сустрэчы.

*Г.Сутула, старшыня Глыбоцкага аддзялення БХК.*

## «Запирайте этажи -- нынче будут грабежи»

Нарабіла шуму ў Паставах серыя гучных крадзяжоў. Сярод белага дня і пад вечар былі абкрадзены дамы дырэктара завода, работніка пракуратуры, былога дэпутата Вярхоўнага Савета, некалькіх прадпрымальнікаў. Злачынцы «заходзілі» ў кватэры праз дзверы і вокны, пераварочвалі ўсё ў пошуках грошай. Бралі відэа-, радыёапаратуру. Няма сумнення, што дзейнічалі злачынцы па наводцы. У апошнім выпадку невядомыя ў масках уварваліся ў хату адзінокай пенсіянеркі па вуліцы Гогаля, звязалі яе і шукалі грошы. Не знайшлі. Міліцыя абяцала ўзнагароду за любую карысную інфармацыю.

*У. Шык*

Курс наяўнага долара на «чорным рынку» ў Глыбокім **1200**

Праваабарончая старонка

# «СЛОВА НАРОДУ»

## «Вы задели её самолюбие, она же руководитель»

**30 кастрычніка загадчык Глыбоцкага РАА Р.І.Тарасевіч у спешным парадку выклікаў да сябе на размову настаўніцу СШ№ 2 Мартыноўскую Г.Л., якая з`яўляецца загадчыцай грамадскай прыёмнай Глыбоцкага аддзялення Беларускага Хельсінскага камітэта па правах чалавека і дырэктара гэтай школы Мурашка Т.А.**

У кабінеце Р.І. Тарасевіча сядзела галоўны ўрач Глыбоцкай ЦРБ Котава Н.Б., якая прыйшла, каб з дапамогай кіраўніцтва РАА, непасрэднага начальства Мартыноўскай Г.Л., паставіць апошнюю «на сваё месца». Шырока распаўсюджаны ў савецкія часы прыём «паставіць на месца», з дапамогай якога савецкая ўлада паспяхова ваявала з уласным народам, на мяжы трэцяга тысячагоддзя не спрацаваў і спрацаваць не мог: праўда, якую нехта спрабуе ўтаіць, заўсёды абрушваецца на недобрасумленнага. Але ў гэтай гісторыі з выклікам прадстаўніка грамадскай арганізацыі «на кавёр» была перадгісторыя.




За 17 год журналісцкай практыкі я аб`ездзіла не толькі Беларусь,блізкае і далёкае замежжа, але і пагутарыла, пазнаёмілася з многімі людзьмі. Былыя воіны-афганцы, хлеборобы, урачы, работнікі прамысловасці, пісьменнікі, артысты, кіраўнікі розных рангаў -- кожны гаварыў пра сваё, але ў гэтых гутарках паўставаў Чалавек, з яго адносінамі да жыцця, да акружаючых, да праблем... Прызнаюся, што за гады працы я не сустракала кіраўніка, які б свой уласны гонар ставіў вышэй даручанай справы. Не сустракала да сёлетняга года.

**У канцы верасня я нечакана захварэла. З высокай тэмпературай «хуткая» даставіла мяне ў Глыбоцкую бальніцу, дзе напрацягу дзвюх з паловай гадзін не магла дачакацца такой патрэбнай дапамогі ад дзяжурнага ўрача Мацієўскага С.** Каб не падышоў С.Шарабайка, загадчык інфекцыйнага аддзялення, той вечар мог быць для мяне апошнім. Да слова, С.Шарабайка быў адзін з трох урачоў, які не стаў пісаць паперы, а адразу прыпісаў выратавальныя лекі. Аб факце майго «лячэння» на наступную раніцу я паведаміла галоўнаму ўрачу бальніцы Н.Б. Котавай. Упершыню за 37 год жыцця пачула грубасць у адказ, адчула знявагу да сябе і яе гонар, на які я быццам бы замахнулася. Котава Н.Б. не пастаралася прыслухацца, разабрацца, а ўзялася ставіць мяне «на месца». 24 кастрычніка прадстаўнікі Віцебскага абласнога аддзела аховы здароўя, якія прыехалі па майму пісьму, запрасілі мяне для размовы. Усе факты, аб якіх я паведаміла, яны пацвердзілі. Котава Н.Б. прызналася, што вяла сябе не належным чынам і размаўляла са мной у недапушчальным тоне. Здавалася б, інцыдэнт быў вычарпаны. Прайшоў амаль тыдзень. Гісторыя з бальніцай стала забывацца. Праз нейкі тыдзень прадстаўнік БХК Мартыноўская Г.Л. зайшла ў бухгалтэрыю палiклінікі, каб запытацца колькі ў бальніцы ложка-месцаў. Прыйшла Котава Н.Б. Яна не магла перажыць таго, што пытаюцца не асабіста ў яе, а ў яе падначаленых, між іншым, вопытных спецыялістаў. «Паставіць на месца» занадта дапытлівага грамадскага дзеяча прасцей за ўсё было высілкамі непасрэднага кіраўніцтва. І Котава Н.Б. пайшла да загадчыка РАА. На добрую гадзіну адарвала ад працы і яго, і дырэктара СШ№2, і Мартыноўскую Г.Л. Упершыню за шмат год работы я ўбачыла абсурд: **пытанні аховы здароўя вырашаліся ў кабінеце загадчыка аддзела адукацыі.** Хто-хто, а Котава Н.Б. павінна была ведаць, што ахову здароўя ў раёне курыруе намеснік старшыні райвыканкама С.А.Валасевіч, што да яе трэба было ісці з пытаннямі. Хто-хто, а Котава Н.Б. павінна была ведаць, калі чытае газеты, што аддзяленне БХК афіцыйна пастаўлена на ўлік у выканкаме і згодна Статута прадстаўнікі яго маюць права пытацца, збіраць інфармацыю, пры абароне правоў чалавека звяртацца ў розныя інстанцыі. Менавіта проста пыталася ў бухгалтара Мартыноўская Г.Л., а не рабіла нейкі татальны кантроль.

На маё пытанне: **« Чаму пра ахову здароўя гавораць у аддзеле адукацыі і з якой нагоды выклікалі Мартыноўскую?»** пачула адказ: ***«Она*** (Мартыноўская Г.Л.) ***задела её самолюбие*** (Котовой Н.Б.)***, а она же руководитель».*** Значыць, толькі ў кіраўнікоў бывае гонар і самалюбства? Няўжо ў тых медсясцёр, санітарак і ўрачоў, якіх іншы раз без прычыны на павышаных танах адчытвае галоўны ўрач не маюць гонару? А можа ў падначаленых гонару, наогул, не павінна быць? Можа падначаленыя павінны моўчкі цярпець фанабэрыю і выбрыкі «царствующих» асоб?

Час, калі «ставілі на месца» просты люд нібыта «моцныя» свету гэтага прайшоў. Кожны грамадзянін сёння, нягледзячы на тое з`яўляецца ён прадстаўніком БХК ці не, мае права і на павагу, і на якаснае лячэнне, і на магчымасць пракантраляваць кіраўнікоў. Гэтае права замацавана ў нашай Кастытуцыі, а вось пра гонар і самалюбства апошніх не сказана нідзе. Таму, каб сядзець за начальніцкім сталом, гонар трэба класці пад стол. У адваротным выпадку на пасаду сядзе іншы.

Спроба аказаць уціск на прадстаўніка БХК Мартыноўскую Г.Л. Котавай Н.Б. не ўдалася. Убачыўшы ў кабінеце загадчыка РАА старшыню Глыбоцкага аддзялення БХК, галоўны ўрач моўчкі і спешна пакінула кабінет.

Для усіх кіраўнікоў хачу расказаць такі выпадак. У адной амерыканскай кампаніі падначалены са злосці пасек сякерай стол свайго начальніка. На наступны дзень начальнік!!! быў звольнены за «няўменне знаходзіць агульную мову з падначаленымі і стварэнне




канфліктных сітуацый у калектыве». І гэта справядліва. Падобная практыка ў адносінах кіраўнікоў, упэўнена, хутка дойдзе і да нас і тады некаторым самалюбам і ганарліўцам прыйдзецца выбіраць: ці паважліва адносіцца да людзей, ці шукаць іншую работу.

Што датычыць неаказання мне патрэбнай кваліфікаванай дапамогі, то ўсё стала на месцы. 31 кастрычніка з Віцебскага аддзялення аховы здароўя за подпісам першага намесніка начальніка абласнога Упраўлення А.С. Раманенкава я атрымала афіцыйны адказ. *«Камісія Упраўлення аховы здароўя Віцебскага аблвыканкама ўстанавіла, што мелі месца недахопы аказання Вам меддапамогі ў Глыбоцкай ЦРБ, што было абмеркавана з Вамі ў час сустрэчы. Выяўленыя хібы былі абмеркаввваны ў калектыве і галоўны ўрач выдала загад №368 ад 23.10.2000г. , згодна якога вынесены адміністратыўныя спагнанні работнікам бальніцы: Маціеўскаму С.Н., медсястры Шчарбіцкай І.Е., намесніку галоўнага ўрача Кучыц В.А. З загадам азнаёмлены ўрачы і сярэдні медперсанал ЛПУ раёна».*

**Вынік з усяго сказанага адзін: За праўду, за сваё права быць чалавекам можна і трэба змагацца!**

**Галіна СУТУЛА,**
***журналіст, старшыня Глыбоцкага аддзялення БХК.***




## «Мы хочам абараніць гонар свайго сына»

У кастрычніку ў Шаркоўшчынскае прадстаўніцтва БХК звярнуўся жыхар вёскі Красоўшчына Байкоўскі Станіслаў Іванавіч і паведаміў, што яго сын Байкоўскі Валерый, 1960 г.н., жыхар Наваполацка, разам з земляком і знаёмым, супрацоўнікам Мёрскага РАУС Якімовічам Юрыем ехалі ў Мёры. Ля вёскі Чаравік Мёрскага раёна машына трапіла ў аварыю. Валерый Байкоўскі загінуў. Загінуў якраз у дзень нараджэння дачкі, якой споўнілася 20 год. Згодна аповядам сведак, за рулём знаходзіўся Юрый Якімовіч. Праўда калегі Ю. Якімовіча сцвярджаюць, што за рулём быў не Юрый, а Валерый, што за рулём Юрый апынуўся ад моцнага ўдару, які перакінуў міліцыянера з крэсла пасажыра на месца вадзіцеля. Бацькі Валерыя Байкоўскага не згодны з такім сцвярджэннем. Каб абараніць гонар сына-нябожчыка яны, звярнуліся за дапамогай да праваабаронцы. Яны прадставілі пісьмовыя тлумачэнні сведак і відэакасету, адзнятую на месцы аварыі. На спробу пракуратуры закрыць справу бацькі Байкоўскага В. заявілі, што будуць дабівацца праўды і справядлівасці ўсімі магчымымі законнымі сродкамі. І яшчэ цікавая акалічнасць. Да грамадскага праваабаронцы звярнуўся і міліцыянт.

Як будуць развівацца далейшыя падзеі, мы раскажам чытачам у наступных нумарах.

**С. Табола,**
**Шаркоўшчынскі раён.**

## Жывём, як у каменным веку

**Згодна інфармацыі, прадстаўленай афіцыйнай асобай, Глыбокае займае 102-ое месца ў рэспубліцы па тэлефанізацыі.**

У горадзе і на сяле сотні людзей гадамі стаяць у чарзе, каб з дапамогай тэлефона далучыцца хоць да якой мала-велі цывілізацыі. Новыя АТС уводзяцца ў суседзяў: у Варапаеве, Докшыцах, а ў Глыбокім зацішша. Абяцаны на 2000 год увод новай АТС так і застаўся абяцаннем. Гэта адзін аспект праблемы. Другі аспект -- якасць работы сувязістаў. У мяне, да прыкладу стаіць сістэма АВУ, якая поўнасцю адпавядае сваёй назве. Па-першае, мой тэлефон ад свету. Калі няма свету, няма і сувязі. Па-другое, датэлефанавацца з АВУ, пагаварыць, пачуць некага іншы раз проста немагчыма. Прасцей выйсці на ганак і крычаць «АВУ, людзі, вы мяне чуеце?» Нягледзячы на выбрыкі гэтай сістэмы плачу я як за звычайны тэлефон. Мой згублены час і патрачаныя нервы ніхто ва ўвагу не прымае. Колькі раз я звярталася да сувязістаў, размаўляла з начальнікам М.Е Далгіцарам, выказвала яму прэтэнзіі і прасіла абмяняць «АВУ» на звычайны тэлефон -- выніку ніякага. Маю лінію правяралі, абяцалі, што ўсё будзе добра, абяцалі новую АТС, якая здыме ўсе праблемы і на гэтым заканчвалася размова.

Маючы тэлефон, я сёння вымушана хадзіць на тэлеграф, да суседзяў, бо пагаварыць са свайго нельга. Я не магу да свайго «АВУ» падключыць факс, мадэм. Я пазбаўлена магчымасці жыць цывілізавана, плацячы пры гэтым грошы. Ці не з`яўляюцца падобныя адносіны адказных асоб да абанентаў парушэннем правоў апошніх? Каб адказаць на даннае пытанне прывяду невялікую «хроніку»:

**30.10.2000г**. жанчына з Шаркоўшчынскага раёна дазванілася да мяне за 47 --ым разам! Праз пяць хвілін размова перарвалася.

**31.10** я тэлефанавала ў вёску Заазерцы. Сувязь аднастаронняя: я абанента не чула, ён мяне чуў (аб гэтым даведалася пасля).

**2.11.** Размова з Глыбоцкім абанентам перарывалася пяць разоў за 12 хвілін...

**8.11**. Размова з абанентам з Пастаўскага раёна перарывалася двойчы за пяць хвілін...

Перада мной дагавор аб прадастаўленні паслуг прадпрыемствамі сувязі, у якім значыцца: «забяспечыць якасную, у адпаведнасці з устаноўленымі нормамі тэлефонную сувязь». Якраз гэтага ў маёй сітуацыі і не назіраецца.

**Калі грамадзянін не выконвае свае абавязкі, дзяржава яго карае. Калі ж будзе адказваць дзяржава за невыкананне абавязкаў перад грамадзянамі?**

**Галіна Сутула.**

# «Падсвільскія манеты»

На тэрыторыі Заходняй Беларусі (да аб'яднання яе з СССР у верасні 1939 года) мелі абарачэнне грашовыя знакі буржуазнай Польшчы -- злотыя і грошы. Напэўна, мала хто ведае, што нам -- «заходнікам» -- вельмі пашанцавала ў тыя часы трапіць у аналы гісторыі. Многія нашы заходне-беларускія гарады могуць ганарыцца наступным: яны мелі пад час польскай акупацыі свае ўласныя манеты. Гэта унікальныя і адзіныя ў сваім родзе нумізматычныя помнікі-- плацёжныя боны польскіх вайсковых часцей, размешчаных на Беларусі. Манетападобныя жэтоны розных наміналаў хадзілі толькі ў межах таго батальёна, назва і нумар якога змяшчаліся на манеце.



Рэверс падсвільскіх манет
Аверс манеты ў 10 грошаў, алюміній.
Аверс манеты ў 50 грошаў, цынк.

Геаграфія гарадоў, якія мелі ўласныя грошы, досыць шырокая і даволі ўражвае: Брэст, Слонім, Ваўкавыск, Гародня і Клецк, Сноў і Пружаны, Кобрын,Пінск, Баранавічы і Вілейка.

Выпускаліся манеты ў 1926-1939 г.г. наміналамі ў 5, 10, 20, 50 грошаў, 1, 2 і 5 злотых. Чаканіліся яны з цынку, алюмінію, медзі і латуні. Фактычна, гэтыя боны былі плацёжным сродкам вайсковых спажывецкіх кааператываў, а іх прызначэннем быў разлік за тавары для польскіх жаўнераў і кантроль за крэдытамі, якія не маглі перавышаць 50% капіталу таварыства.

Афармленне манет было досыць сціплым: кругавая легенда змяшчала нумар вайсковай часці, мелася адзнака наміналу і імя горада. За рэдкім выключэннем манеты мелі сімвалічны малюнак. Напрыклад, 50 грошаў атрада рачной флатыліі г. Пінска мелі выяву якара, а 5 злотых афіцэрскага казіно 84-га стралковага палка таго ж горада змяшчалі відарыс чароту.

Наша Глыбоччына мае поўнае права ганарыцца тым, што ў спісе гарадоў, дзе абарачаліся ўнікальныя і экзатычныя манеты, ёсць і наша Падсвілле. Так! Невялікі пасёлак Падсвілле меў свае «імянныя» грошыкі.

Чаканіліся падсвільскія манеты для патрэб 7-ага батальёна корпуса памежнай аховы, што дыслацыраваўся ў гэтым мястэчку. Мелі яны абарачэнне толькі ў межах пасёлка.

На малюнках вы можаце ўбачыць два тыпы гэтых манет: наміналы ў 10 і 50 грошаў (аверс) і іх рэверс.Дык вось на рэверсе і занатавана імя прыгожага і ўтульнага куточка Глыбоччыны -- «Падсвілле», тут жа надпіс -- «суполка 7-га батальёна».

Канешне, адзначым тое, што нашы беларускія землі для Польшчы тады з`яўляліся толькі ўсходнім ускрайкам і нічога нацыянальнага, беларускага Вы не ўбачыце на манеце. Не знайшлося месца і беларускай назве нашага гарадка...

Аднак факт перад Вамі: Глыбоччына заняла сваё пачэснае месца ў спісе нумізматычных рарытэтаў. А гэтым можа пахваліцца далёка не кожны горад свету.

**Шарыпкін Р. Л.,**
**настаўнік Лучайскай БШ,**
**краязнаўца**



**Калі я бываю ў Глыбокім, у мяне заўсёды пытаюцца пра насельніцтва Бабруйска, асабліва пра яўрэяў. Не здзіўляюся гэтаму: калісьці Бабруйск называлі «сталіцай яўрэяў».**

# Жыццё на вачах

Яшчэ год назад іх налічвалася 10468 чалавек, а па дадзеных апошняга перапісу насельніцтва засталося толькі 1359. У Бабруйску пражываюць прадстаўнікі 66 нацыянальнасцей: каля тысячы палякаў, 617 цыган, 102 в`етнамцы; ёсць літоўцы, латышы, эстонцы, немцы, аварцы, курды, афганцы, рускія, украінцы, асірыйцы, грэкі, уйгуры, нават адзін бурат. Нягледзячы на гэты «рознакаляровы» букет нацыянальнай праблемы ў горадзе не існуе.

І ўсё ж асноўную масу бабруйчан складаюць беларусы, колькасць якіх у параўнанні з перадапошнім перапісам павялічылася з 66 да 75%. Радуе, што 76,8% беларусаў Бабруйска назвалі беларускую мову роднай. Калі прасачыць статыстыку нараджэння і смяротнасці, то яна не радуе. У параўнанні з 1959 годам бабруйчан пабольшала ў 2,5 разы, а ў параўнанні з 1989 годам насельніцтва зменшылася на 237 чалавек. Пачынаючы з 1996 года, ў Бабруйску, як і ў цэлым па краіне, нараджальнасць падае. Так, летась у горадзе памерла на 430 чалавек больш, чым нарадзілася. Зменшылася і колькасць дзяцей ва ўзросце да 15 год. На адну тысячу працаздольных прыходзіцца 615 утрыманцаў (непрацуючых). Калі глядзець па ўзроўню жыцця, то ў Бабруйску ёсць і «новыя» беларусы, і «старыя», і бамжы, месца прапіскі якіх на гарацкой звалцы. Сярэдні ўзрост насельнікаў звалкі -- 40 год, але ёсць і 25- і 30-гадовыя, толькі адной бабульцы семдзесят.

Напярэдадні 17 кастрычніка, Міжнароднага дня барацьбы з нішчымнасцю, у газеце «Бабруйское жыццё» быў змешчаны артыкул «Не дай нам Бог попасть в страну изгоев», дзе расказана і з дапамогай здымкаў паказана «шчаслівае жыццё» нашых суродзічаў, якія не маюць добрага жылля, працы, надзеі на будучыню, якія перабіваюцца, здаючы макулатуру, шклатару, рыззё, якія п`юць, каб не задумвацца пра сваё жыццё і харчуюцца, як сабакі, каты і вароны, са сметніка... І калі раней падобныя выпадкі былі адзінкавыя, то сёння бамжы і жабракі сталі грамадска-палітычнай з`явай жыцця. Дакуль мы будзем апускацца ў прорву?

*Т.Барсук,*
*г.Бабруйск*



*Сафія са сваім сябрам Цэнтурыёнам*

Шмат розных гісторый, казак, легенд звязвае чалавека і першага яго сябра -- сабаку.

Сёння мы вам распавядзём пра ньюфаўндленда -- прыгожую і цікавую пароду. Радзіма сабак гэтай пароды-- аднайменны востраў паблізу берагоў Канады. Ньюфаўндленд -- вялікі ўніверсальны сабака. Дзякуючы сваёй доўгай густой поўсці, можа без праблем жыць на поўначы. Паміж пальцаў лап Ньюфаўндленд мае перапонкі як у качкі, таму вельмі хутка плавае, а таксама нырае. У сабак гэтай пароды вельмі развіты інстынкт выратавальніка на вадзе. Дапамагае ён свайму гаспадару не толькі па камандзе, але і самастойна бярэ на сябе адказнасць, калі таго патрабуюць абставіны. Ён -- традыцыйная заслона для дзяцей, іх сябра па гульнях. Поўсць у гэтай пароды сабак з`яўляецца лячэбнай і каштуе да 400$ за кілаграм.

А зараз невялікая гісторыя з жыцця Ньюфаўндленда Дэндзі. Да гаспадара Дэндзі часта заглядалі сябры. Сустракаючы сабаку, звычайна давалі яму па манетцы. Атрымаўшы грошы, Дэндзі ішоў да сябе ў пакой і хаваў манеты ў адным яму вядомым месцы, а з адной манеткай, узяўшы яе ў рот, ішоў у булачную за хлебам.

Аднойчы ў гаспадара Дэндзі былі госці. Адзін з іх выпадкова выпусціў манету і тая некуды закацілася. Колькі не шукалі яе, знайсці не ўдалося. Сабака сядзеў у кутку пакоя і рабіў выгляд, што не разумее таго, што робіцца. Павярнуўшыся да яго, гаспадар сказаў: «Дэндзі, знайдзі нам манету і атрымаеш пячэнне. Не паспеў ён дагаварыць, як сабака падбег да стала і паклаў на яго манету. Калі яна звалілася, Дэндзі падабраў і пакуль усе займаліся пошукамі, трымаў яе ў роце.

*А. Шлепень*

## У яўрэяў -- Новы год

Яўрэйскі Новы год -- Раш-а-Шана -- пачынаецца восенню, у верасні-кастрычніку і святкуецца два дні. Гэта дні радасці, чакання добрага года, які нясе здароўе і шчасце. Усе жадаюць гэтага адзін аднаму. За святочным сталом прынята есці долькі яблыкаў і круглы здобны хлеб (халу) з мёдам, каб год быў салодкім і прыемным, а яшчэ рыбу і гранат. Паданне сцвярджае, што ў гранаце 613 зярнят, роўна стольки, колькі запаветаў у Торы -- свяшчэнным пісанні. У адрозненне ад хрысціянскага Новага года яўрэйскі мае больш рэлігійны характар, бо радасць у ім спалучаецца са смуткам -- у Раш-а-Шана Усявышні вырашае лёс кожнага чалавека, а канчаткова замацоўваецца Боскі прысуд праз дзесяць дзён, у свята Йом Кіпур (Дзень Пакаяння), які называецца Судным днём. Гэты прамежак часу, з адпушчаны Богам для пакаяння і малітваў.

Сёлетні яўрэйскі Новы год 5761-ы.

*Т.Яфімаў*



## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

З інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў Вы зможаце звярнуцца да прадстаўнікоў Беларускага Хельсінскага камітэта па правах чалавека ў Глыбокім: **2 37 54, 2 19 38**; у вёсцы Заазерцы Шаркоўшчынскага р-на **2 31 11**; у Паставах **2 27 58**. Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць і бясплатную юрыдычную кансультацыю і канкрэтную дапамогу.



Незалежная рэгіянальная газета «Вольнае Глыбокае»

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор, дызайн: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099
А. Шлепень (г. Глыбокае): тэл.: 21274

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.


Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА)
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб`ём -- друкаваны аркуш.
Падпісана ў друк 28 лістпада 2000 г. у 14-40

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 7139